Hety numar „Chr. Dumki“ z dadatkam „ZORKA“

# CHRYŚCIJANSKAJA DUMKA

BIEŁARUSKI ČASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY U MIESIAC: 1, 10 i 20.

№ 23 (207) Vilnia, 1 žniŭnia 1939 h. — Wilno, 1 sierpnia 1939 r. Hod XII

# Saviety i front supakoju

Anhlija i Francyja, kali pabačyli, što z Hitleram niama žartaŭ, pačali rabić usio, što viadzie da ŭtrymańnia na śviecie spakoju na tych padstavach, na jakich jon dahetul trymajecca. Miž inšym dziela hetaj mety pačali jany pierahavory z Savietami. Na čale hetych pierahavoraŭ stała Anhlija i voś užo daŭžejšy čas praz svajho pradstaŭnika dabivajecca ŭ Maskvie dahavarycca z Savietami. Tymčasam čas biažyć, a pierahavory nie dajuć nijakich pazytyŭnych vynikaŭ.

U čym-ža sprava, čaho ad Savietaŭ choča Anhlija z Francyjaj i jak da ich chacieńniaŭ adnosiacca Saviety? Sajuźnicy žadajuć ad Savietaŭ, kab jany dapamahli im i Polšču, z jakoj jany ŭžo dahavaryŭšysia, bić Hitlera, kali hety dzie-niebudź i jakim-niebudź sposabam naruša spakoj u Eŭropie.

Saviety-ž na heta byccam iduć, ale staŭlajuć svaje varunki. Voś jany: 1) kab było jasna abaznačana, dzie, kali i jak Saviety sajuźnicam majuć pamahać, 2) dahavarycca tak, kab hetych dahavoraŭ paśla nia možna było razumieć dvuznačna i kab paśla na ich padstavie nie paŭtaryŭsia München, 3) dabicca hvarancyjaŭ, kab nichto nia moh zaklučyć dahavoru separatnaha, addzielnaha, 4) kab Saviety mieli prava zaniać Bałtyckija dziaržavy: Łatviju i Estoniju, kali henym dziaržavam budzie hrazić zachopnictva z boku Hitlera, abo kali ŭ nutry hetych dziaržaŭ budzie raźvivacca hitleryzm i 5) kab padpisany dahavor datyčyŭ spakoju nia tolki ŭ Eŭropie, ale takža i ŭ Azii, na vypadak, kali-b na Saviety napali Japoncy.

Z hetaha bačym, što Saviety staviać takija ŭmovy sajuźnicam, kab dahavor da pazytyŭnaha vyniku nie dajšoŭ. Čamu-ž jany tak robiać? 1) Saviety siańnia znachodziacca ŭ duža vyhodnym palityčnym pałažeńni i žadajuć jaho vykarystać jak najlepš, 2) Saviety nia tolki što nie vyrakajucca kamunizmu, ale svoj rasiejska-kamunistyčny režym žadajuć pašyryć i na inšyja dziaržavy i narody, 3) Saviety pry hetkim svaim nastaŭleńni nia chočuć i nia mohuć umiešvacca ŭ vajnu, kab baranić buržuaznyja dziaržavy, 4) Saviety sami ŭ vajnu ŭmiašacca nia chočuć, ale vajny biaz ich chočuć, bo takaja vajna, biaz uvahi na jaje kaniec i, biazumoŭna, u svaim apošnim vyniku, viała-b da revalucyi, a tut užo apošniaje słova naležała-b Savietam i 5) Saviety Hitlera nie bajacca, choć-by dziela taho, što ich ad Hitlera zasłaniaje Polšč i Rumunija.

Dziela hetaha trudna spadziavacca, kab Anhlija dy dahavaryłasia z Savietami, bo mahła-b dahavarycca za takuju canu, što i heny ŭvieś dahavor nie apłaciŭsia-b. Jasna, što hetkaja saviecka-ja palityka i taktyka pryśpiašaje vajnu, bo kali-b Saviety dałučylisia da Anhlii i Francyi, dyk Hitler musiŭ-by skapitulavać i prynamsi na niejki čas zabycca ab svaich vialikich planach panavańnia nad Eŭropaj, a biez Savietaŭ, chto viedaje, moža i paprabuje siłaŭ.

Hetak vyhladaje, kali pišam hetyja radki. A jak budzie zaŭtra, chto-ž zhadaje? Mohuć nieŭzabavie pajavicca novyja vialikija palityčnyja plany, jakija mohuć usio pastavić dahary dnom. Hetkija plany mohuć vyłuščycca z „handlovych” pierahavoraŭ Savietaŭ z Niamieččynaj, z pierahavoraŭ Anhlii z Japonijaj, ci tak-ža Anhlii z Niamieččynaj. Ale heta tolki dahadki. Heta musić vyjaśnicca nieŭzabavie.

## Становішча Беларусаў

*(З пастулятаў БНА — „Беларускага Народнага Аб'еднаньня“).*

Многіх цікавіць, якое ў сучасны мамэнт займаюць становішча Беларусы. Некаторыя аб гэтым пытаюцца нават у нашай рэдакцыі. Каб не адказываць заціkаўленым паасобку, інфармуем усіх гэткім вось спосабам.

Становішча Беларусаў за апошнія гады не зьмянілася, бо ня было й няма падставы дзеля нейкае зьмены.

Дзеля паясьненьня становішча Беларусаў, перадрукоўваем некаторыя пастуляты „Беларускага Народнага Аб'еднаньня“ (БНА), апублікаваныя **Камунікатамі:** № 7 з 1937 г. і № 8 з 1938 г. У гэтых **камунікатах** надрукавана:

„Рада БНА, усестаронна разглядзеўшы сучаснае палітычнае палажэньне агульнае й палажэньне Беларускага народу ў асобнасьці, сьцьвярджае наступнае: Напружанасьць у ўзаемаадносінах па-

між народамі й дзяржавамі дасягае найвышэйшай меры. Міжнародная палітыка апынулася ў руках некалькіх вялікіх дзяржаў, якія, праводзячы яе, адны супроць другіх твораць блёкі й саюзы дзяржаўных народаў, а ў імпэрыялістычных імкненьнях не высьцерагаюцца й вайны" *(Камунікат № 7 з 1937 г.)*.

„Беларускі народ на ўсіх сваіх этнаграфічных землях — знаходзіцца ў палажэньні *народу недзяржаўнага:* Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка (БССР) супроць волі Беларускага народу Камуністычнай Партыяй насільна падпарадкавана дыктатуры расейскага цэнтру ў Маскве, які ў БССР праводзіць расейскую асыміляцыйную палітыку" *(Камунікат № 8 з 1938 г.)*

„Бяручы пад увагу вышэйсказанае, Рада Беларускага Народнага Аб'еднаньня дае органам і сябром сваей арганізацыі наказ, а ўсіх Беларусаў заклікае:

Зорка сьледзячы за палітычнымі падзеямі ў міжнародным жыцьці агулам, а так-жа ў суседніх з намі народаў, выясьняць і далей беларускім народным масам шкоднасьць тых палітычных сілаў, якія нясуць Беларускаму народу ваеннае зьнішчэньне й такую ці іншую няволю, і ім супраціўстаўляцца;

Трымаючы горда сьцяг сваей нацыянальнай беларускай самастойнай ідэолёгіі, пашыраць у беларускіх сялянскіх і работніцкіх масах народную сьведамасьць, апіраючы яе на нацыянальных і сацыяльных падставах" *(Камунікат № 7 з 1937 г.)*.

„Дзеля гэтага, згодна з сваімі пастулятамі прынцыповага характару, БНА высказваецца процiў расізму, надмернага нацыяналізму, камунізму й фашызму, а так-жа процiў усялякага роду дыктатуры, якая нясе грамадзянствам і цэлым народам няволю й зьдзек" *(Камунікат № 8 з 1938 г.)*.

Гэткае становішча заняло годдва таму арганізаванае беларускае грамадзянства. І цяпер гэтае становішча ня страціла сваей актуальнасьці і — трэба думаць,— прынцыпова выражае агульна-беларускае становішча ў сучасную хвіліну.

## Delehacyja PPS i „Demakratyčnaha Klubu" ŭ Vilenskaha Vajavody

*(Da spravy adčynieńnia biełaruskich arhanizacyjaŭ)*

Za apošnija try hady vilenskaj administracyjnaj uładaj pazačyniany ja amal usie kulturna-aśvietnyja j haspadarčyja biełaruskija arhanizacyi. Začynieny: „Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury," „T-va Biełaruskaje Škoły" i „Haspadarski Žviaz." Spyniena dziejnaść: „T-va Biełaruskaje Aśviety," „Biełaruskaha Vučycielskaha Sajuzu" i „Biełaruskaha Dabradziejnaha T-va."

Pradstaŭniki biełaruskaha hramadzianstva miesiac tamu (u červieni) spravu pałažeńnia biełaruskaha kulturna-aśvietnaha j haspadarčaha žyćcia ŭ Rečypaspalitaj pradstavili Vilenskamu Vajavodzie i prasili jaho adčynić začynienyja biełaruskija arhanizacyi, abo dać mahčymaść adčynić adnu novuju kulturna-aśvietnuju arhanizacyju. Vajavoda tady abiacaŭ spravu razhledzić.

Jak padaje „Robotnik", 17.VII. delehacyja vilenskaj arhanizacyi P. P. S. i „Demakratyčnaha Klubu" ŭ asobach dr. I. Dobžanskaha i praf. M. Kridla adviedała Vilenskaha Vajavodu, pradstaviła jamu stanovišča svaich arhanizacyjaŭ adnosna biełaruskaj prablemy j vyjaviła svajo padtrymańnie postulataŭ padanych Vajavodzie pradstaŭnikami biełaruskaha hramadzianstva ŭ spravie adčynieńnia spynienych biełaruskich arhanizacyjaŭ i instytucyjaŭ.

Cikava, jakoje heta stanovišča PPS i „Demakratyčnaha Klubu" adnosna biełaruskaj prablemy? Dasiul jano publična nia vyjaŭlena i Biełarusam niaviedamaje!

АД. СТАНКЕВІЧ

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА [22)] І БЕЛАРУСКІ НАРОД

*(У 950-ыя ўгодкі Хросту Беларусі: 988/9—1938/9)*

У пач. XVI ст. у нашым краю паявілася вызнаньне, так званае эванэліцкае, а прадусім Кальвінства й адчасьці Социянства. Вось-жа многія беларускія вышэйшыя слаі пакідалі Праваслаўе й пераходзілі ў Кальвінства, а пасьля, калі Кальвінства перастала шырыцца й быць модным, пераходзілі ў лацінства каталіцкае.

Узноў-жа далейшым дзейнікам, пашыраючым у нас лацінства, былі езуіты, якія ў нашым краю паявіліся ў XVI ст. дзеля барацьбы з рэфармацыяй. Езуіты, боручыся з Кальвінізмам, які масава пашыраўся ў нас сярод паноў, часта наварочвалі ў лацінства ня толькі паноў, але такжа й народныя масы, цалком ад гэтых апошніх залежныя. Пад уплывам дзейнасьці езуітаў здараліся выпадкі, што й праваслаўныя ўсходнія беларускія паны прымалі лацінскае каталіцтва.

Калі-ж у 1596 г. наступіла царкоўная Унія, якая трывала 243 г., перацягваньне Беларусаў уніятаў у лацінства яшчэ больш пашырылася й прысьпяшылася. Так напр. уніяцкі мітрапаліт Вэлямін Рутскі ў 1623 г. інфармуе Рым аб тым, што уніятам з боку лаціньнікаў робяцца крыўды й што іх перацягваюць у лацінства. На гэта ў 1624 г. папа Урбан VIII выдаў бульлю, у якой забараняе пераход у лацінства. Палякі гэтаму спрацівіліся. Тады гэна бульля была агранічана толькі да духавенства. Так хацеў кароль Сігізмунт III. Адносіны праўныя, грамадзкія й таварыскія з боку польскага да Беларусаў уніятаў былі благія й нават несправядлівыя. Вось-жа нічога дзіўнага, што яны нават гэтым самым былі прымушаны пакідаць свой усходні абрад і пераходзіць у лацінства.

# † Pamior Mitrapalit Advardy Ropp — pryjaciel Biełaruskaha narodu

25.VII. sioleta ŭ Paznani na 88 hodzie žyćcia pamior Mahiloŭski Arcybiskup Mitrapalit Advardy Ropp. Dla Biełarusaŭ heta imia bliskaje i zasłužanaje. Paśviacimža hetaj vialikaj i śvietłaj asobie choć niekalki nastupnych uvahaŭ.

Z pachodžańnia Niemiec, z prakanańnia Palak. Radziŭsia ŭ Liksnie (Łatvija) ŭ 1851 h. Pa skančeńni siaredniaj škoły skončyŭ u Pieciarburzie prava i pastupiŭ u Senat na słužbu. Chutka adnak hetuju karjeru pakinuŭ i pastupiŭ u Duchoŭnuju Seminaryju ŭ Koŭnie. Staŭšysia ksiandzom, skončyŭ jašče vyšejšyja navuki teolohičnyja ŭ Insbruku i Fryburhu.

Paśla hetaha pracavaŭ, jak prabašč, na parafii: u Tyrolu (Aŭstryja) i ŭ Libavie (Łatvija), i jak kanonik u Koŭnie. Navučyŭsia pałatysku i palitoŭsku. U 1902 h. staŭsia biskupam u Saratavie (ciapier Savieckaja Ukraina).

U 1903 h. byŭ pieraviedzieny na biskupa ŭ Vilniu, dzie pieršy raz spatkaŭsia z Biełarusami. Załažyŭ jon tut palityčnuju katalickuju arhanizacyju: „Stronnictvo Konstytucyjno-Katolickie," u jakim braŭ pad uvahu ŭ kulturnym žyćci i biełaruski jazyk.

U 1907 h. biskupa Roppa rasiejski ŭrad sasłaŭ na vyhnańnie, jakoje tryvała 10 hadoŭ, až da vybuchu rasiejskaj lutavaj revalucyi ŭ 1917 h.

Papiež Benedykt XV u 1917 h. naznačyŭ jaho arcybiskupam mitrapalitam Mahiloŭskim. Pry jaho intronizacyi ŭ Pieciarburzie bulla była pračytanaj i pabiełarusku.



Śv. p. Arcybiskup E. Ropp

Budučy na hetym stanoviščy, załažyŭ Chryścijanskuju Demokracyju, jakaja davała mahčymaść pracy tak-ža i Biełarusam.

U tym-ža 1917 h., vizytujučy parafii Vilenskaj Dyecezii, jakija nia byli pad niamieckaj akupacyjaj, usiudy z jaho dazvołu byli havorany biełaruskija kazańni. Pieršaje takoje kazańnie z bahasłavienstva Mitrapalita Roppa ŭ Dziśnie ŭ 1917 h. u lipni miesiacy skazaŭ nižej padpisany...

Biełaruskuju movu ŭ kaściol jon uvodziŭ nia tolki prypadkova, — jon daŭ jej na heta aficyjalnaje prava, vydajučy pastyrski list da duchavienstva, u jakim padčorkvaje prava i patrebu ŭžyvańnia biełaruskaha jazyka ŭ kaściele. Prabavaŭ navat na staraść vučycca pabiełarusku. Da vitajučych jaho Biełarusaŭ achvotna pramaŭlaŭ pabiełarusku choć niekalki słoŭ.

U 1919 h. mitrapalit Ropp byŭ aryštavany balšavikami i asudžany na vastroh. Byŭ adnaki vymienieny i vypuščany ŭ Polšč. Asieŭ u Varšavie.

U 1931 h., nia majučy ŭžo nadziei na pavarot na svaju stalicu, vydaŭ raźvitalny list da svajho duchavienstva. U hetym liście jašče raz padčorkvaje, što duchavienstva pavinna adnolkava šanavać usie narody i pryznavać ich pravy.

Śv. p. arcybiskup Mitrapalit Ropp zaŭsiody cikaviŭsia losam Biełaruskaha narodu, jaho adradžeńniem, pryznavaŭ jaho nacyjanalnyja pravy i ščyra žadaŭ jamu pamysnaści. Byŭ jon sapraŭdy pryjacielem Biełaruskaha narodu. Viečny-ž supakoj dušy hetaha Vialikaha Chryścijanina-Apostała i čałavieka! Čeść i słava Jaho śvietłaj pamiaci!

**Ks. Ad. St.**

Słonim 26.VII.39.

---

У 1623 г. праваслаўная шляхта Вялікага Кн. Літоўскага падала Сэнату Рэчыпаспалітай скаргу, так званую «супліку», у якой між іншым чытаем: ...«Вольнасьці народу рускаму належацца дваякія: таму народу рускаму, які ёсьць веры рымскае, паслушнасьці заходняе й таму народу рускаму, які ёсьць веры грэцкае, паслушнасьці ўсходняе. Русь рымскае веры пры сваей вольнасьці астаецца, а нам Русі веры грэцкае, вольнасьць выдзерта»...

З гэтага дакуманту бачым, што ня толькі было шмат Беларусаў лаціньнікаў, але й як беларуская шляхта, якая тады прадстаўляла народ, адносілася да іх. Вось-жа бачым, што тагочасныя праваслаўныя Беларусы Беларусаў каталікоў лічылі Беларусамі, такімі самымі, як і яны праваслаўныя.

Націск лацінізму й полёнізму на Беларусаў уніятаў урэшце да таго ўзрос, што ў 1717 г. у польскім грамадзянстве паўстаў праект і уніятаў і праваслаўных Беларусаў аканчальна перавесьці ў лацінства.

Асабліва многа пераходзіла Беларусаў з Уніі ў лацінства пасьля падзелу Польшчы, калі Беларусы апынуліся пад панаваньнем расейскіх цароў і калі з боку расейскіх уладаў ішоў выразны й часта грубы націск на уніятаў з мэтай пераводжаньня іх на Праваслаўе. I так дзеля гэтых прычын за часаў царыцы Кацярыны II (1796 г.) многія Беларусы уніяты, жадаючыя захаваць веру сваіх бацькоў, пакідалі Унію й далучыліся да касьцёла лацінскага, адлучыць якіх ад каторага расейскім уладам было значна трудней, як ад Уніі. Тое-ж самае было й за часаў цара Паўла, як сьведча аб гэтым уніяцкі полацкі архіепіскап Іраклі Лісоўскі.

Гэткія-ж узноў адносіны расейскай царскай палітыкі да уніятаў са свайго боку прававалі й заахвочвалі Палякоў цягнуць да сябе ў лацінства рэшту уніятаў, якія аставаліся ўні-

*Što pišuć hazety?*

### „Rasieja pierabudoŭvajecca“

„IKC“ maluje hetki abraz sučasnaha SSSR.

Rasieja pierabudoŭvajecca. Centry svajho promysłu pieranosić na Urał, u Sibir i na Daloki Uschod. Adnačasna vyvozić z Ukrainy, Biełarusi, Kaŭkazu j Krymu aŭtochtonnaje nasielnictva ŭ Sibir. Hetak pravodzicca z rubiažoŭ SSSR prymusovaja vandroŭka narodaŭ, kab lahčej ich zrusyfikavać.

### Na što Niamieččynie Hdansk?

Amerykanskaja presa piša, što Niamieččyna choča zabrać Hdansk nie tamu, što tam niamieckaje nasielnictva, ale dziela taho, kab lahčej było šyryć svaju ekspansiju na eŭrapejski Uschod. Zaniaŭšy Hdansk, Niamieččyna planuje achapić svaimi ŭpłyvami Skandynaviju j zaniać małyja prybałtyckija dziaržavy.

### Novaja taktyka Niamieččyny

Francuskija hazety padajuć, što Niamieččyna pačynaje novuju taktyku prapahandy suproć Polščy. Hetaja taktyka tasujecca ŭ spravie nacyjanalnych mienšaściaŭ. Jana asnoŭvajecca na tym, kab Niemcy z Polščy ŭciakali ŭ Niamieččynu j źbiralisia ŭ „łahiery emihrantaŭ“. Heta maje być dokazam prad kulturnym świetam, što ŭ Polščy nacyjanalnym mienšaściam vielmi błaha j dziela hetaha Niemcy z Polščy ŭciakajuć.

## Bolš cany rodnaj krainie j kultury!

Tak jano jošć, što ab našym kraju najbliżejšyja našyja susiedzi pryvykli havaryć i pisać, jak ab najbiadniejšaj i zusim niakulturnaj staroncy Da hetaha pryvykli j my sami j uvažajem siabie kulturna nižejšymi za svaich susiedziaŭ, a svoj kraj biednym i adstałym. Tymčasam nia zusim tak jošć u sapraŭdnaści.

Ciapier pad pahrozaj vajny polskija haspadarčyja kruhi zajmajucca spravaj zabiaśpiečańnia žyćciovych patrebaŭ niasielnictva dziaržavy syrcami z ułasnych žarołaŭ. Šukajučy ŭnutry dziaržavy žarołaŭ syrcu, jany „adkryli“ **ŭ našym kraju** — „na ŭschodnich kresach“ Polskaj Rečypaspalitaj—haspadarčuju kulturu miascovaha nasielnictva i ŭradžajnuju ziamlu.

U spravie tekstylnaha syrca ŭvaha polskich fachoŭcaŭ najbolš źvierniena **na naš lon.** U vypadku spynieńnia pryvozu z zahranicy bavoŭny (a vajnoj hetaha treba spadziavacca), zn čnuju časć tekstylnaha zapatrabavańnia polskaha promysłu hetaj branžy — ćvierdziać fachoŭcy — možna zaspakoić lonam. Jany śćviardžajuć, - nasuproć školnym padručnikam, z jakich vyhladaje, što „uschodnija kresy“ horš zahaspadaravanyja za siaredniuju Polšč, — što najbolš siejuć lonu j najlepš jaho ŭpraŭlajuć nie ŭ zachodniaj Polščy j nie ŭ Kanhresoŭcy, ale **ŭ nas** — „na ŭschodnich kresach“. U celaj Eŭropie ŭ pradukcyi lonu tolki Saviety nas pieravyšajuć, dzie taksama ŭ Biełarusi lon najlepš raście j umieła jaho ŭpraŭlajuć. Ciapier hałoŭnym praducentam lonu ŭ Polskaj Rečypaspalitaj źjaŭlajucca: Vilenščyna, Navahradčyna, Biełastoččyna, Paleśsie, a tak-ža j Vałyń. Polskija fachoŭcy daśledzili, što nia tolki lonu najbolš siejuć i najlepš jaho ŭpraŭlajuć „na ŭschodnich kresach“, ale što lon u nas i najlepš raście, u paraŭnańni z inšymi krainami. Ad hetych polskich fachoŭcaŭ daviedvajemsia, što „uschodnija kresy“ dastaŭlajuć vałakno nia tolki polskamu promysłu, ale taksama ŭ Anhliju, Francyju, Niamieččynu, Belhiju, Vuhryju, Italiju, a navat i ŭ Zł. Št. Paŭnočnaj Ameryki.

Druhi syrec, na jaki ciapier zvaročvajecca vialikaja ŭvaha, — **heta aviečaja voŭna.** Hadoŭla aviec — polskija fachoŭcy nasuproć niekatorych polskich školnych padručnikaŭ ćvierdziać—najbolšaja j najlepšaja taksama „na ŭschodnich kresach“. Na ahulny lik 3.188.000 štuk aviec u Rečypaspalitaj pieršaje miesca prypadaje Vilenščynie (5°8.000), paśla Paleśsiu (480.000), dalej Navahradčynie (414.000) j Biełastoččynie (380.000).

Pry hetym treba adznačyć vysoka kulturnuju j rasšyranuju hadoŭlu koniaŭ u našym kraju, adkul ich celymi tabunami prad suśvietnaj vajnoj kupcy adsyłali ŭ Niamieččynu, a ciapier iduć nia mała ŭ polskuju armiju i ŭ central-

ятамі й далей трымаліся веры сваіх бацькоў. І ў гэтым часе цэлыя масы уніятаў пераходзілі ў лацінства, бо—з прычыны паншчыны,—яны былі цалком залежныя ад польскіх паноў і ад ксяндзоў.

Расейскія палітыкі спасьцераглісь і, жадаючы да сябе прыгарнуць Беларусаў уніятаў, стараліся пераходу іх у лацінства процiўставіцца. Так напр. у 1796, 1797 і 1799 г. былі выданы царскія ўказы, забараняючыя пераходзіць з уніі ў лацінства. Але нічога гэта не памагала й Палякі уніятаў Беларусаў цэлымі масамі пераводзілі далей у лацінства. У 1806 г. быў такжа выданы царскі указ, каб тыя ўсе цэрквы й прыходы, якія з уніі перайшлі ў лацінства, узноў вярнуць у унію. Адбываліся доўгалетнія вялікія судовыя працэсы й нічога з гэтага ня выходзіла: ня толькі што не варочаліся быўшыя ўніяты ў унію, але далей у лацінства пераходзілі цэлыя прыходы з усіх беларускіх губэрняў. Так напр. у 1809 г. у ваднэй толькі Віленскай губэрні з уніі ў лацінства перайшло да 20 тысяч Беларусаў.

Нямала так-жа, а можа найбольш як калі, уцякала Беларусаў уніятаў у лацінства ў 1839 г., калі вышэйшае ўніяцкае духавенства, здрадзіўшы Унію, ня пытаючыся верных, часта пры помачы паліцыі, перапісвала іх у Праваслаўе. Ня хочачы быць сілай запісанымі ў Праваслаўе, яны масава ўцякалі ў лацінскае Каталіцтва.

Урэшце за часаў першых у нашым краю расейскіх генерал-губэрнатараў, жывучых у Вільні, асабліва-ж ведамага з сваей жорстка сьці М Н. Мураўёва, цэлыя масы быўшых уніятаў з Праваслаўя ўцякалі ў лацінства. Да гэтага часу адносяцца слаўныя словы праваслаўнага віленскага архіепіскапа Макарага, сказаныя Мураўёву на яго раду архіепіскапу знайсьці спосабы ўтрымаць пераход Беларусаў праваслаўных у каталіцтва: «Дзеля таго, што чыноўнікі іх наварачвалі на Праваслаўе, дык няхай-жа яны

nuju Polšč, jak rabočaja j inšaja siła. My majem i našaje krajovaje rasovaje bydła, jakoje bałšaviki ŭ BSSR nazyvajuć „čyrvonym bydłam".

Ahułam, ziemlarobskaja kultura ŭ nas nia zusim na niskim roŭni. Adna j najbolšaja biada ŭ nas, što sialanskija haspadarki drobnyja, jakija treba pašyryć ahulnaj ziamielnaj reformaj, a tak-ža toje, što j nia maje naš sielanin svaich, biełaruskich haspadarčych arhanizacyjaŭ, pry pomačy jakich mahła-b raźvivacca ziemlarobskaja kultura dalej. Ale ŭ hetym miascovaje nasielnictva nievinavata.

Polskija ekanamisty tolki cia pier pačynajuć zvaročvać uvahu na bahaćci **našaha kraju** j jaho vializarnaje haspadarčaje značeńnie ŭ vypadku vajennaj zaviaruchi. Dasiul jany „dumali", što **naš kraj** vielmi biedny, zusim niakulturny j ahułam haspadarča ničoha niavarty, kudy, „dziela dabra" miascovaha nasielnictva, treba było pasyłać z „bahaciejšaj" i „kulturniejšaj" krainy misyjanaraŭ z „zachodnia - eŭrapejskaj" cyvilizacyjaj, kab niaśli „na ŭschodnija kresy" haspadarčy dabrabyt i ahułam „vyšejšuju" kulturu.

Polskija ekanamisty ścviardžajuć, što „ŭ sučasnych abstavinach ahulnaha palityčnaha napružańnia pradukcyja vałakonnaj syraviny ŭ kraju nabiraje asablivaha značeńnia, a **„ŭschodnija kresy"** ŭ hetaj halinie pradukcyi dajuć nam prysłuhu pieršaradnaj vahi".

Hetak užo acaniajuć polskija ekanamisty bahaćcie j ziemlarobskuju kulturu našaha kraju Dyk adkidajma j my samyja ŭhavorany susiedziami nam „kampleks niššaści", dy naležna acaniajma rodny kraj i svaju kulturu.

Z padanaha vyšej vidać, jak haspadarčyja patreby viažacca z palitykaj i stratehijaj. Kali my naležna sami budziem canić bahaćcie našaha kraju j rodnaj kultury, dyk paza vałaknistym lonam i vaŭnistymi aviečkami, polskija ekanamisty „pabačać" i pradućentaŭ hetaj syraviny — Biełarusaŭ.

*p—k*

# Palityčnaja prahrama polskich imperyjalistaŭ

Hrupa polskich imperyjalistaŭ, što abjednyvajucca ŭ arhanizacyi *„Związek Polskiej Myśli Państwowej"* i vydajuć časapis *„Naša Przyszłość"*, abviaščaje novuju svaju palityčnuju prahramu. U supiarečnaści z padniataj hien. L. Želihoŭskim *„słavianskaj idejaj"*, jakuju hetyja imperyjalisty ŭ svaim orhanie *„Nasza Przyszłość"* nazvali „ahulna-słavianskaj mazhovaj džumaj", katoruju hatovy „vytraŭlać z psychiki Polskaha narodu ŭsialakimi sposabami", staviać jany *„pryrodnaje abjednańnie"*, jakoje pavinna achapić narody ad raki Odry na zachadzie až da Kaŭkazu i Urału na ŭschodzie. Hetaje *„pryrodnaje abjednańnie"*, apračа sučasnaj Polščy, maje abymać Hdansk, Šlonsk, Uschodniuju Prusiju, prybałtyckija dziaržavy (Litva, Łatvija, Estonija), Ukrainu, Biełaruś, Vuhryju, Baŭharyju i Juhasłaviju. Aŭtar hetaj palityčnaj fantazii, Jan Bobžyński, dumaje, što ździejśnić jaje možna nie vajnoj, ale mirnym sposabam.

Druhi ideoloh *„Związku Polskiej Myśli Państwowej"* Jazep Čarnecki ŭ časapisie *„Nasza Przyszłość"*, zaklikajučy da dziejnaści, majučaj na mecie zapeŭnić Polščy pieršaje miejsca ŭ siarednia-ŭschodniaj Eŭropie, a tak-ža da taho, kab, kali treba budzie, paŭtaryć Hrunvald, — padaje „karotki palityčny katechizm Palaka," jaki pradstaŭlajecca hetak:

„Palak palityčna musić być maksymalistam".

„Polskaja žaŭnierskaja advaha musić harmanizavacca z advahaj cyvilnaj i ŭ ramach šyrokaha palityčnaha haryzontu musić być raźličana na dalokuju budučyniu."

„Polšč musić mieć dziaržaŭnuju arhanizacyju, adpaviadajučuju „narodu azbrojenamu."

„Narody Litoŭski, Ukrainski i Biełaruski, jak aŭtochtony, źjaŭlajucca supolnymi haspadarami („współgospodarzami") histaryčnych ziamiel polskaj vialikadziaržavy."

„Zasiah vialikadziaržaŭnaści Polščy pavinien daviaści da stvareńnia:

a) vialikadziaržaŭnaha abjednańnia Litvy, Ukrainy j Biełarusi ŭ ich etnahrafična-histaryčnych hranicach i

b) bloku dziaržaŭ i narodaŭ

---

знайдуць способы й утрымаць іх пры Праваслаўі» — казаў гэны духоўнік.

Спрыяла далейшаму пашыраньню ў нас лацінства й далейшая расейская палітыка. Расейскі ўрад на працягу першай палавіны, калі ня больш, XIX ст. усіх каталікоў у нашым краю ўважаў за Палякоў, Каталіцкі Касьцёл з усімі яго вернымі называў «іноверчаскім і инородным». Зразумелая рэч, што гэткая палітыка яшчэ больш спрыяла ўтрываленьню ня толькі Каталіцтва, як такога, але Каталіцтва ўжо польскага й адгароджаньню яго ад беларускай стыхіі.

Калі-ж урэшце ў другой палавіне XIX ст., асабліва пасьля польскага паўстаньня ў 1863 г., Расейцы дадумаліся, што ў Каталіцкім Касьцеле ёсьць многа Беларусаў і калі зажадалі зрабіць з іх «чыстых рускіх», у грамадзкай іх думцы паўстала вялікая спрэчка аб тым, ці даць супакой гэным Беларусам пазволіць ім далей карыстацца мовай польскай у касьцеле й даць ім магчымасьць спакойна польшчыцца, ці—наадварот — узяць іх пад высокую расейскую апеку й Беларусам, як рускім, даць мову расейскую. Урэшце перамагла гэтая апошняя думка й у 1869 г. наступіў «высочайшы дазвол» карыстацца ў касьцеле расейскай мовай. Зразумелая рэч, што царскі «дазвол» раўняўся загаду. Гэтак яго й зразумелі: урад, чыноўнікі, паліцыя, праваслаўнае духавенства. Ад гэтага «дазволу» аж да 1905 г. распачалася самая гарачая, часта сусім дзікая, барацьба ўраду ў кірунку ўвядзеньня ў касьцёлы ў дадаткавае набажэнства мовы расейскай замест польскай. І гэткая палітыка ўцьвярджала Беларусаў у лацінстве й Беларусаў каталікоў рашуча адгараджвала ад Беларусаў праваслаўных, творачы ўжо нават недарэчнае паняцьце „польскай" і„рускай"веры.

Урэшце, калі наступіла сякая-такая свабода сумленьня ў 1905 г., многія масава з Праваслаўя пераходзілі ў лацінскае Каталіцтва. Бы-

pałožanych miž morami: Bałtyckim, Adryjatyckim i Čornym (Čechi, Słavacyja, Vuhryja, Juhasłavija, Baŭharyja, Rumynija, Litva, Łatvija, Estonija)".

Hetak bolš-mienš vyhladaje palityčnaja prahrama polskich imperyjalistaŭ „*Zw. Polskiej Myśli Państwowej*", jakija Biełarusaŭ pryznajuć tolki „współgospodarzami" na ich etnohrafičnych ziemlach. Polskija nacyjanalisty — endeki — Biełarusaŭ nie ŭvažajuć navat i za „współgospodarzy" ŭ ich pryrodnym asieliščy.

Treba adznačyć, što endeki z prahramaj „*Zw. Polsk. Myśli Państwowej*" nie zhadžajucca. Jany ŭ časapisie „*Warszawski Dziennik Narodowy*" ćvierdziać, što prahrama „Zw. Pol. M. Państw. dla Polščy škodnaja. Bo—kažuć endeki— „Uschodnija zavajavańni rujnavali nacyjanalny adpor Polščy na zachadzie i ŭ kancy-kancoŭ byli našledkam vykryŭleńnia nacyjanalnaha abličča Polščy".

Voś vuzioł, jaki raźviazvajučy zaciskajecca! *lp.*

**„Chryścijanskaja Dumka" razam z miesiačnikam „Z O R K A" dla bieł. dziaciej kaštuje ŭ hod usiaho 3 zał. U składčynu jašče taniej: kali chto na adzin supolny adras źbiareć t r o c h padpiščykaŭ, dyk za try ekzemplary „Chr. D." płacić tak-ža 3 zał., heta značа: kožny padpiščyk z hetaj trojki atrymaje našu hazetu za 1 zał. u hod. Numar konta 63.**

## Litoŭskim paviljonam na vystaŭcy ŭ Njujorku cikavicca śviet, a ci jość biełaruski?

Jak viedama, ciapier adbyvajecca ŭ Njujorku mižnarodnaja vystaŭka. Biaruć u jej udzieł usie dziaržaŭnyja narody śvietu. Miž imi znachodzicca j paviljon litoŭski. Ab im voś što kažuć Litoŭcy: „Meta vystaŭki— pakazać śvietu poŭny abraz litoŭskaha kulturnaha j ekanamičnaha žyćcia ŭ niezaležnaj Litvie. Litoŭski paviljon uładžany sa smakam. Advìedvajuć jaho duža mnohija asoby, jakija ŭsim cikaviacca, raspytvajuć, studjujuć, zapisvajuć Miž inšym duža cikaviacca litoŭskaj knihaj, asabliva jaje formaj. Byli zdareńni, što ŭłaśniki vialikich amerykanskich vydaviectvaŭ, hledziačy na litoŭskija knižki, nie chacieli vieryć, što jany vydany ŭ Litvie, bo bačyli duža strojnuju j darahuju rabotu. Vialikaje tak-ža zacikaŭleńnie vyklikaje ŭ zahraničnych ludziej narodnaje litoŭskaje mastactva. Niekatoryja mastaki navat tut-ža mnohaje zrysoŭvajuć i kuplajuć. — („Viln. Aidas" № 84).

Da rečy tut budzie zapytacca, a ci jość tam paviljon biełaruski? Musiła b heta zrabić Savieckaja Biełaruś, ale ab hetym niejak cicha. **T. S.**

## Z haspadarčaha žyćcia

**Baŭhary j Turki kuplajuć našyja koni.** Baŭharskija j tureckija kupcy 24 lipnia sioł. u Vialejskim paviecie zakupili j adasłali ŭ svaje krai vialiki tabun koniaŭ. Zahraničnyja kupcy z našych koniaŭ vielmi zdavolenyja. Heta śviedčyć, što hadoŭla koniaŭ u biełaruskich sialan staić na adpaviednaj vyšyni.

Druhi skup koniaŭ baŭharskimi kupcami maje adbycca ŭ Ašmianie 2 žniŭnia sioł. Jany majuć kuplać vałachi j kabyły ad 3 z pałavinaj da 7 hadoŭ, rostam ad 152 da 158 cm. Koniaŭ maści sivoj, derašavataj i bułanaj kuplać nia buduć.

**Raŭniańnie płatoŭ.** Biada sialanam z płatami. Letaś zahadvali płaty bialić, — tady sialanie kuplali vapnu j bialili. Doždž abmyje — sialanie nanava bielać. Sioleta bialić nie zahadvali, zatoje zahadali raŭniać płaty. Nia možna, kab adzin kałok byŭ karaciejšy za druhi. Musiać być roŭnyja ŭsie, jak padstryžanyja. Sialanie mierajuć kałki ŭ płotach i raŭniajuć, bo jnakš dyk pratakoł i štraf.

**Spynieńnie rabot kala paradkavańnia...** Ministar unutranych spraŭ Polščy vydaŭ zahad, kab na čas žniva (lipień i žnivień) spynili ŭsie raboty, źviazanyja z paradkavańniem starych budynkaŭ, bialeńniem i raŭniańniem płatoŭ.

лі гэта тыя Беларусы быўшыя уніяты, якім дзеля тых ці іншых прычын раней перайсьці ў Каталіцтва не ўдалося. І цяпер пераход гэты быў значны, масавы. Быўшым уніятам Беларусам імпанавала лацінскае Каталіцтва й тым, што было ўціcканае й што гэта была вера іх дзядоў. У 1908 г. напр. у ваднэй толькі Магілёўскай губэрні Беларусаў каталікоў было 59 тысяч.

Вось гэткім чынам паявіліся ў Беларусі Беларусы каталікі лаціньнікі. Гэта, як бачым, тыя-ж Беларусы, продкі якіх належалі да абраду ўсходняга: сьпярша усходня-каталіцкага, а пасьля праваслаўнага.

Сяньня так-жа паволі павялічваецца лік Беларусаў каталікоў, бо й сяньня многія Беларусы праваслаўныя дзеля розных прычы, пераважна асабістага характару, пакідаюць Праваслаўе й пераходзяць у лацінскае Каталіцтва. Здараецца гэта пры жанімствах, пры шуканьні дзяржаўнай пасады й інш. жыцьцёвых абставінах.

Сяньня Беларусаў каталікоў на беларускіх землях Рэчыпаспалітай Польскай ёсьць больш мільёна, а на ўсім сьвеце: СССР, Латвія, Літва, Сібір, Злуч. Ст. Амэрыкі — будзе яшчэ мільён. Усіх Беларусаў каталікоў, і на землях беларускіх і на эміграцыі, сяньня будзе мільёны два.

Усе Беларусы, як праваслаўныя, так і каталікі, — гэта, як бачым, адзін суцэльны Беларускі народ, да якога 950 гадоў таму з усходу ў грэка-славянскім абрадзе заглянула сьвятло Праўды Хрыстовай.

(Літаратура: **Документы**, об'ясняющіе исторію Западно-Русскаго Края. СПБ, 1865; **Документы**, относящіеся к исторіи церковной Уніи в Россіи. Т. XVI: (Акты Изд. Виленск. Археогр. Ком. Вильна, 1889); **Ks. J. Kurczewski** — Kościół Zamkowy II, Wilno, 1910; **Иван Беляев** — Исторія Полотска. Москва, 1872; **Prof. Dr. Wł. Abraham** — Polska, a Chrzest Litwy (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); **Ks. Dr. J. Fiałek** — Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); **Ks. Ad. Stankievič** — Rodnaja mova ŭ śviatyniach. Vilnia, 1929.)

# Za aščadnaść i ükłady ü Biełaruski Kooperatyüny Bank

Užo bolš dziesiaci hadoŭ isnuje j pravodzić naležnuju operacyju, pacichu, ale ŭporna j paśladoŭna raźvivajučy biełaruskaje ekanamičnaje žyćcio, *Biełaruski Kooperatyŭny Bank* u Vilni. Ciažkaja była praca hetaj biełaruskaj instytucyi j šmat joj pryšłosia pieramahčy trudnaściaŭ. Ale, uporystaja j paśladoŭnaja praca ŭsie ciažary pieramahła — Bank apraŭdaŭ svajo praznačeńnie, a hetym i davier. Šyrejšy zasiah jaho dziejnaści całkom zaležny ad biełaruskaha hramadzianstva. Hramadzianstva moža pryčynicca da rasšyreńnia dziejnaści Bieł. Koop. Banku sposabam zapisvańnia ŭ jaho siabry z upłataj siabroŭskich składak, abo ŭkładajučy navat najdrabniejšyja aščadnaści ŭ svoj Bank.

Niechta moža skazać: — voś dzivaki, našyja Biełarusy, što ŭ hetki tryvožny čas, dy kłapaciacca ab rasšyreńni dziejnaści svajho Banku! — Ale ŭsie tyja, što hetak mohuć skazać, abo padumać, z hledzišča aščadnaści j źbierażeńnia zaaščadžanych hrošaj mocna mylajucca.

Heta praŭda, što dla haspadarčaha raźvićcia patrebny palityčny supakoj. Ale taksama praŭda, što aščadnaść patrebnaja j padčas palityčnaha zakałotu, a pierachoŭvańnie aščadnaści ŭ Banku zaŭsiody karyśniejšaje j bolš bieśpiačniejšaje, čymsia pierachoŭvańnie ŭ „pančasie".

Tyja, što źbirajuć hroš da hroša, kab kupić karovu, abo sabrać 200—300 zł. dla dački na pasah i hetuju aščadnaść chavajuć u „pančasie", mocna mylajucca, kali dumajuć, što j Bank źbiraje hrošy, kab lažali ŭ jaho mocna zapiortaj kasie.

Dziejnaść Banku palahaje nie na zapirańni hrošaj u kasach, ale na biazupynnym i jak najbolšym ich abarocie, kab hetyja hrošy dali najbolš karyści. Hetkaje praznačeńnie majuć ahułam usie banki, dziela hetaha isnuje j Biełaruski Kooperatyŭny Bank. Pracenty, jakija Bank daje za ŭłažanyja aščadnaści, — heta tolki naharoda ŭkładčykam za toje, što jany dajuć mahčymaść svaimi hrašmi viaści j raźvivać bankova-hramadzkuju haspadarku.

Ale paŭstaje jšče adno pytańnie: dzie jość bolšaja peŭnaść i lepšaje zabiaśpiečańnie, kab hrošy nia stracili svajej vartaści! Takoha zabiaśpiečańnia bank nie daje — heta praŭda. Ale ad hetaha nie zabieśpiačaje hrošaj i chavańnie ich u „pančasie". Bahaciejšyja, što nie pierachoŭvajuć hrošaj u banku, kuplajuć damy, ziamlu, zakładajuć i raźvivajuć promysieł, abo handal i ahułam robiać hrašmi haspadarčy kapitał. Ale kab kupić ziamlu, abo dom, treba mieć pavažniejšuju sumu. Hetkaj sumy hrošaj nia ŭsie majuć, a aščadžać pavinny ŭsie, bo vydavać hrošy na niepatrebnyja rečy, tolki dziela taho, kab ich nia było,—durna j škodna.

Biełarusy svaje aščadnaści pavinny źbierahać u Biełaruskim Kooperatyŭnym Banku. Bahaciejšym treba źviarnuć bolš uvahu na hetuju narodnuju ekanamičnuju placoŭku j pryčynicca da rasšyreńnia jaje dziejnaści, upisyvajučysia ŭ siabry Banku, dy ŭpłačvajučy pradbačanyja statutam siabroŭskija pai.

*Iks*

# U Ukraincaŭ

**Denacyjanalizacyja Karpackaj Ukrainy.** Paśla kryvavaj raspravy Vuhryi z Ukraincami ŭ Karpackaj Ukrainie, vuharski ŭrad prystupiŭ da vynaradaŭleńnia tamašniaha ŭkrainskaha nasielnictva. Panaznačanyja ŭ ukrainskija škoły vuharskija vučyciali rychtujucca z pačatkam novaha školnaha hodu vučyć ukrainskich dziaciej pavuharsku. U cerkvach śviaščeńniki rusafiły j vuharskija prysłužniki prabujuć adpraŭlać nabaženstvy j havaryć kazańni pavuharsku. Ale narod takich pastyraŭ nia słuchaje j vychodzić z cerkvaŭ.

Suproć takoha vuharskaha nastupu Ukraincy da krajnaści abureny. Pa siołach šyracca nielehalna drukavanyja paŭkrainsku afiški, u jakich zaklikajecca narod da niaŭstupki j zapeŭniajecca, što ŭsio hetaje praśledavańnie chutka minie, bo nastupić upadak i samoj Vuhryi. Abureńnie narodu vylivajecca ŭ aružnuju baraćbu z vuharskaj žandarmeryjaj. Słovam, trahedyja Ukraincaŭ u Karpackaj Ukrainie pradaŭžajecca.

**Niemcy začynili ŭkrainskija arhanizacyj ŭ Čechii.** Nadoviačy niamieckija ŭłady začynili niekalki ŭkrainskich kulturna-aśvietnych arhanizacyjaŭ u Čechii i Maravii. Začynieny, miž inšymi, „Ukrainski Socyjalohičny Instytut", „Sokił" i „Prośvita".

# Knihapis

*Der Weissrussische Politische Gedanke bis 1919 von Peter Scheibert — Berlin.* Pad hetkim zahałoŭkam na 20 ci bačynach čaćviorki niamiecki žurnał: „Jomsburg" (Völker und Staaten im osten und norden Europas), sšytok Nr. 3, pamiaściŭ artykuł Piatra Scheiberta, u jakim apisana historyja biełaruskaj palityčnaj dumki da 1919 h.

Ahułam artykuł napisany pavažna j hruntoŭna. Vykarystana badaj usia viedamaja starejšaja litaratura. Na žal, nia vykarystana litaratura naviejšaja, i musić dziela hetaha P. Scheibert u kancy svajej pracy robić pamyłkovy vyvad, ćvierdziačy, što biełaruski narod, ucisnuty miž dvuch vialikich susiedziaŭ (Rasiejcaŭ i Palakoŭ) až dahetul u palitycy nia vyrabiŭ svajej samastojnaj dumki i paddajecca ich upłyvam. Voś-ža tak nia jość: akt 25.III.18, a paśla ŭsia praca BChD, a pa jej BNA śviedča ab čym inšym.

M. K.

*Z mižnarodnaj palityki*

# Marš. Rydz-Śmigły ab hdanskaj spravie

Maršałak Polščy Rydz-Śmigły ŭ hutarcy z amerykanskaj žurnalistkaj zajaviŭ:

Polšč hatova zrabić usio mahčymaje, kab vyrašyć spravu Hdanska biez vajny. Ale kali Niamieččyna budzie Hdansk zabirać, dyk Polšč budzie vajavać navat i tady, kali-b astałasia j adna, biez sajuźnikaŭ.

# Dyplomatyčnyja pierahavory j narady hienerałaŭ

Dasiul u mižnarodnaj palitycy adbyvalisia pierahavory dyplomataŭ. Dyplomatam, jakija i dalej nia spyniajuć svajej dziejnaści, ciapier pačali pamahać hienerały. Paśla naradaŭ vajennych štabaŭ Francyi i Anhlii, adviedaŭ Polšč anhielski hienarał Ajronside. Z uvahi na biezrezultatnaść anhielska-saviecka-francuskich dyplomatyčnych pierahavoraŭ u SSSR, vyjazdžajuć u Maskvu francuskija j anhielskija hienerały na vajennyja narady z savieckimi kamandzierami.

Hetkija narady vajennych kamandzieraŭ Niamieččyny j Italii načalisia značna ŭpierad i adbyvajucca stała. Słovam, idzie da taho, što kali nia vyrašać zablytanaj palityčnaj prablemy dyplomaty, — jaje vyrašać hienerały.

Przesyłka opłacona ryczałtem



## Anhielska-japonskaje parazumieńnie

Apošnimi dniami Anhlija z Japonijaj pahadzilisia ŭ paŭstaŭšym miž imi spory na Dalokim Uschodzie. Anhlija pajšła Japoniji na ŭstupki ŭ spravie svaich kancesijaŭ u Kitaju i byccam zhadziłasia spynić dapamohu Kitaju ŭ jahonaj baraćbie z japonskim zachopnictvam. Hetaja ŭstupka Anhlii ŭzmacniaje pałažeńnie Japonii na Dalokim Uschodzie i stvaraje tam bolšuju pahrozu dla SSSR. Mahčyma, što hetaj ustupkaj Anhlija choča padahnać SSSR da anhielska-saviecka-francuskaha sajuzu ŭ Eŭropie. Ale Saviety padazrajuć, što Anhlija pojdzie na ŭstupki taksama i ŭ siaredniaj Eŭropie, a jaje ŭstupki na karyść Japonii ŭvažajuć zaachvočvańniem apošniaj da vajny z SSSR.

## Miljardy funtaŭ šterlinhaŭ za mir

U całym śviecie paŭstała vialikaja sensacyja. Vyjaviłasia, što niamiecki delehat dziela łoŭli kitoŭ dr. Voltat budučy ŭ Anhlii pahavaryŭ „tak-sabie“ z anhielskim ministram zahraničnaha handlu Hodsonam ab vialikaj palitycy. U hetaj hutarcy min. Hodson zajaviŭ, što Anhlija nikoli nie addaść Niamieččynie zamorskich kalonijaŭ. Havoračy miž saboj ab palitycy „tak-sabie“, Voltat i Hodson ustanavili hetki plan spynieńnia pahrozy vajny:

1) Kancl. Hitleru zajaviać, što Anhlija j jaje sajuźniki nikoli nia zhodziacca na apanavańnie Eŭropy siłaj;

2) Kali kancl. Hitler zhodzicca pierajści na šlach mirnych dyplomatyčnych pierahavoraŭ, dyk Anhlija j jaje sajuźniki pastarajucca dać mahčymaść Niamieččynie mieć dostup da syraviny i buduć adnosicca da Niamieččyny spraviadliva;

3) Dziela pierachodu niamieckaha promysłu z vajennaha na mirny, Niamieččynie dali-b pomač;

4) Zahvarantavanaje było-b pryjaznaje supracoŭnictva na suśvietnych rynkach miž Anhlijaj, Niamieččynaj i inšymi vialikadziaržavami;

5) Niamieččyna, kali nia zusim razbroicca, dyk ahraničyć zbrajeńnie j vajskova zvolnić Čechiju.

Hazety padavali, što ŭ hetaj palityčnaj hutarcy ustanoŭlena navat miljardavaja suma funtaŭ šterlinhaŭ dla Niamieččyny, jak dapamoha na pierachod z vajennaha stanovišča na šlach mirnaha sužyćcia. Praŭda, min. Hadson zapiarečyŭ, adnosna sumy hrošaj, ale ab hetaj hutarcy ŭsio paćvierdziŭ i zajaviŭ, što ab pierahavorach z pradstaŭnikom Niamieččyny paviedamiŭ premjera Čemberlena.

Niezvažajučy, što za hetyja pierahavory nie biare adkaznaści ani anhielski ŭrad, ani ŭrad Niamieččyny, u palityčnym śviecie hetaja viestka prabiehła, jak „čorny kot“ upopierak darohi.

## Japonska-savieckaja vajna pradaŭžajecca

Apošnimi dniami pačalisia nanava zaŭziatyja bai na mandžurska-manholskaj hranicy. Ciapier, paśla spynieńnia anhielska-japonskaha kanfliktu, mahčyma, Japonija pačnie naciskać na savieckuju Manholiju j ahułam na S.S.S.R. Saviety heta vyčuvajuć i dziela hetaha byccam prystupajuć da anhielska-saviecka-francuskaha sajuzu ŭ Eŭropie

## Trup na hdanska-polskaj hranicy

Na hdanska-polskaj hranicy 20. VII. zastreleny polski pahraničnik Budzievič. Polski hieneralny kamisar u Hdansku padaŭ u hdanski senat rašučy pratest.

Streł i trup Budzieviča—heta tolki adno źviano ŭ doŭhim łancuhu vypadkaŭ, jakija pryčyniajucca da zavastreńnia niamiecka-polskaha kanfliktu. A jak i kali hety kanflikt vyrašycca, pakulšto niaviedama.

**Baćki Biełarusy! Vučycie svaich dziaciej čytać i pisać pabiełarusku!**

## Usiačyna

**Što možna zrabić za tyja hrošy, što jduć na zbrajeńnie?** Dziaržavy całaha śvietu ŭhinajucca pad ciažaram zbrajeńnia. Znajšlisia ludzi, što abličyli hetyja vydatki i ćvierdziać: — Niamieččyna vydaje na zbrajeńnie kožnyja dva dni miljard frankaŭ, Anhlija — hetkuju sumu kožnyja try dni, Japonija — kožnyja čatyry dni, S.S.S.R. — 3-4 miljardy frankaŭ kožnyja 5 dzion, Francyja — miljard frankaŭ u tydzień, a ceły śviet — bolš 2 miljardaŭ frankaŭ kožny dzień. Kab ceły śviet pierastaŭ zbroicca, dyk za vydavanyja hrošy na zbrajeńnie možna było-b vyžyvić 200.000 000 ludziej, jakija zusim ničoha nie rabili-b. Francyja mahła-b pabudavać chaty z sadkami dla 2-3 miljonaŭ siemjaŭ, abo dać naharodu kožnamu dziciaci pa 90.000 frankaŭ; Niamieččyna kupiła-b kožnaj siamji aŭtamabil, abo kupłała-b kožny dzień pa 30 miljonaŭ kil masła dla całaha nasielnictva; a z sukna, što ciapier Anhlija zakupiła dla svaich navabrancaŭ na mundziry, možna vyścialić darožku z Londanu ŭ Nju-Jork.

**Jakija jość viery na śviecie?** Usich vyznavalnikaŭ roznych vieraŭ na śviecie naličajuć 1.849 miljonaŭ. U hetym chryścijan 682 z pałavinaj miljonaŭ: katalikoŭ 331 z pałavinaj miljonaŭ, pravasłaŭnych 144 miljony, pratestantaŭ 206 miljonaŭ, 900 tysiač. Niechryścijanskaha nasielnictva naličajecca 1.166 z pałavinaj miljonaŭ. U hetym: žydoŭ 15.315.159, mahametan 209.020.000, buddystaŭ 150.180.000, hindusaŭ (bramistaŭ) 230.150.000, kanfucyjanistaŭ 350.600.000, šyntuistaŭ (japonskaja viera) 25 000.000, animistaŭ (jany vierać, što źviery majuć dušu) 135.650.000 i roznych mienšych sektaŭ 50.860.000.

**Kanaplanaje pałatno na budovu daroh.** Šukajučy zbytu pałatna, anhielskija fabryki praviali probu budavańnia daroh z hruboha pałatna. Pałatnianyja darohi akazalisia mocnyja j cichija dla jazdy. Ciapier užo pačynajuć budavać z kanaplanaha pałatna darohi, dzie najbolšy ruch.

Padpiska na „Chr. Dumku“: na hod—3 zał., na paŭhodu—1 zał. 50 hr., na try miesiacy—1 zał. Cana asobnaha numaru — 10 hr.
Zahranicu padpiska ŭ dva razy daražej. — Adrys Redakcyi i Administracyi: Vilnia (Wilno), Zavalnaja vul. № 1—2.

Redaktor J. POŹNIAK
Рэдактар Я. ПАЗЬНЯК

Wydawca KS. AD. STANKIEWICZ
Выдавец КС. АД. СТАНКЕВІЧ

Drukarnia Białoruska im. Fr. Skaryny, Wilno, Zawalna 1. — Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.